# ULTIMATE X-MEN®

ISSUE 27

ВЯРТАННЕ КАРАЛЯ. ЧАСТКА 1




MILLAR
FINCH
THIBERT

MARVEL®

.BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Сучасныя Людзі-Ікс
№27 (2001)
пераклад і афармленне:
Козыраў Сяргей



WWW.MARVEL.COM

| Charles Xavier | Scott Summers | Jean Grey | Ororo Munroe | Logan | Kitty Pryde | Hank McCoy | Peter Rasputin |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Professor X | Cyclops | Marvel Girl | Storm | Wolverine | | Beast | Colossus |

# MAGNETO TRIUMPHANT

## PREVIOUSLY IN ULTIMATE X-MEN:

Расамаха, Цыклоп, Марвел, Шторм, Звер, Калос і Чалавек-Лёд. Яны - Людзі-ікс, мутанты, аб'яднаныя прафесарам Чарльзам Ксаўе, які навучыў іх кіраваць сваімі неверагоднымі здольнасцямі.

Эрык Магнус Леншэр, больш вядомы як суперзлодзей з кодавым імем Магнета, вяртаецца ў тэрарыстычную групу Братэрства Мутантаў. Напрацягу шасці месяцаў ён знаходзіўся пад наглядам прафесара Ксаўе, які заблакіраваў яго памяць і спрабаваў адаптаваць Магнета да жыцця сярод людзей. Аднак чальцы Братэрства адшукалі свайго былога лідара і з дапамогай тэлепатыі дапамаглі Магнета ўспомніць сваё мінулае.

За палярным кругам Магнета будуе новы штаб Братэрства. Адсюль ён будзе камандваць сваёй арміяй мутантаў, якая павінна заваяваць свет і знішчыць ненавісных Людзей-ікс. Калісьці прафесар Ікс і Магнета былі сябрамі, але з-за розных поглядаў на лёс мутантаў зрабілі іх непрымірымымі ворагамі. І цяпер Магнета прагне расправы над Ксаўе і яго вучнямі...



Stan Lee presents:

# ULTIMATE X-MEN


Mark Millar story
pencils David Finch Art Thibert inks

Dave Stewart colors
Chris Eliopoulos letters
C.B. Cebulski associate editor
Brian Smith associate editor

Ralph Macchio editor
Joe Quesada editor in chief
Bill Jemas president & inspiration


ЛУВР, ПАРЫЖ:
Не, ня думаю, што французы спужаюцца павукоў. Таму для разнастайнасці я выдумаў **вос**. Калі не памыляюся, павукі тут амаль не **дэлікатэс**?
Што ты іх прымушаеш **бачыць**, Мозг? Яны што, бачаць вялізарных **павукоў**?


Ты блытаеш іх з **жабамі**, ідыёт!
Так, канешне... але жабы не такія **агідныя**, як павукі.

Дарэчы, чаму ты гуляеш з гэтай камерай замест таго, каб карсці карціны, як загадаў табе Магнета?
Няўжо мы прыйшлі сюды не для таго, каб **абрабаваць** музей?

Скажам так, нехта з нас здольны выконваць **две справы** адначасова. Не выпадкова ж Магнета даручыў гэту працу менавіта мне. І не выпадкова мяне завуць **Множнікам**.
Божа, колькі ўласных **клонаў** ты можаш стварыць?

Дваццаць сем ці дваццаць восем, потым я пачынаю паўтарацца.
Ты не чуў пра вялікі **марш пратэсту** летась, які я арганізаваў у адзіночку? Мне прыйшлося падзяліць сваю свядомасць між столькімі цяламі, што потым я цэлы месяц не мог напісаць уласнае **імя**.
Няўжо? **Смешна**.


А ты? Праўда, што ты ўратаваўся ад нападзення сакрэтнага атрада «Абароны», прымусіўшы байцоў паверыць, быццам яны ўжо схапілі цябе? Дзякуючы тваёй ілюзіі.
Праўда. А яшчэ я прымусіў іх убачыць Бруклінскі мост, калі яны праследвалі Жабу і іншых рабят некалькі тыдняў назад.
Калі Капітан Амерыка зразумеў, што здарылася, я ўжо быў на паўдарогі да Флорыды.

Атрымліваецца, ты можаш зрабіць так, каб людзі выглядалі інач, чым яны ёсць на самой справе? Возьмем, напрыклад, адну дзяўчыну-мутанта з Базы. Яна звярнула на мяне ўвагу, як я толькі далучыўся да групоўкі.
Ты можаш зрабіць яе падобнай на Пунцовую Ведзьму ці **Гвінэт Пэлтроў**?
Тэхнічна - магу. Але я не ўпэўнены, наколькі этычна будзе рабіць такі трук...

Да чорта этыку... Інач якія тады з вас тэрарысты? Спадзяюся, вы прынеслі ўсе карціны, адзначаныя ў спісе?
Канешне, усе да адной, Шаблезубы. Няўжо я падобны на хлопца, які можа вярнуцца да Магнета, не выканаўшы і паловы працы?
Добра. А цяпер давай-це вернемся ў Цытадэль, пакуль яны не прыйшлі ў сябе. Я хачу ўбачыць рэпартаж пра нашу выхадку перш, чым завалюся спаць.



БЕЛЫ ДОМ:






Канешне, сапраўдная **эліта**, генерал Ф'юры. Цяпер прэзідэнту ня трэба турбавацца, калі нас атакуе Магнета з арміяй **кардонных** фігурак.
Ці не праўда, **добрыя** хлопцы?


Новыя вартавыя - шэсцьдзесят маіх лепшых агентаў, спадар віцэ-прэзідэнт. Касцюм кожнага з іх, абсталяваны найноўшай электронікай, варты цэлай арміі **старых мадэляў**.
Але самае важнае, што ўсё іх узбраенне зроблена з **палімераў-ізалятараў**, таму ў нас больш не ўзнікае праблемаў з замыканнем, як гэта было ў мінулым.


Магнета зноў нагадае пра сябе і паспрабуе захапіць свет, і мы зможам яго **спыніць**.
Мне прыемна гэта чуць.


Вы ўпэўнены, што прэзідэнту тут нічога не пагражае? У мінулы раз ён быў **зняважаны** на вачах усёй нацыі...
Пры ўсёй маёй павагай да пахаванага генерала Роса, гэта адбылася перш, чым мы ўзначалілі Камітэт нацыянальнай бяспекі, сэр.


Белы дом ператварыцца ў сапраўдную **крэпасць** пасля таго, як мы скончым работы... Ён зможа вытрымаць атаку людзей будучыні і нават ядзерны выбух.
А што наконт **спадарожнікаў**? Калі вы іх падрыхтуеце? Я буду спаць спакайней, калі вы з іх дапамогай вызначыце месцазнаходжанне гэтых **монстраў**.


У «Старк Інтэрнэшнл» лічуць, што змогуць высачыць іх у бліжэйшыя дні, сэр.
Але я павінен заўважыць, што нашыя лакатары запраграміраваны выключна на пошук **тэрарыстычных груповак мутантаў**, а не ўсіх мутантаў у цэлым.


Людзі павінны ведаць, што мы ня будзем нападаць на ўсіх, у каго ёсць ген «Фактар ікс». Гэтыя арышты праводзіліся толькі для таго, каб усталяваць сувязь з Братэрствам мутантаў.
Так. І, канешне, Людзі-ікс. Не забывайце, што Магнета не было б тут, калі б Ксаўе не зманіў нам аб тым, што знішчыў яго ў Вашынгтоне.


Я гэтага не забыў, сэр. Не турбуйцеся.


Вы чулі пра нападзенне на Луўр? За лічаныя хвіліны было скрадзена 408 неацэнных твораў мастацтва.
Колькі было падобных крадзяжоў, Ф'юры? Сямнаццаць? Васямнаццаць?
Шэсцьдзесят две, сэр. Шэсцьдзесят две самастойныя аперацыі за чатыры тыдня.


Вы лічыце, што Магнета змяніў свае планы па ўсталяванню сусветнага валадарства?
Мабыць, ён вырашыў спыніць сваю кампанію супраць чалавецтва і проста заняўся крадзяжом дзеля ўласнага ўзбагачэння?


Ха!
Я ня ведаў, што ў вас такое вытанчанае пачуццё гумару, сэр.

ЦЭНТРАЛЬНАЯ СТАНЦЫЯ
ГЛАЗГА, ШАТЛАНДЫЯ:








Ага, калі б Чарльз мог вы-
думаць яшчэ больш **знева-
жальны** спосаб траплення
ў наша сакрэтнае сховішча,
я б з інтарэсам паглядзена
на яго.


**Доктар Мактагерт!**
Вы прынеслі нам **цукеркі**?


О, маё жыццё не мела бы сэнс, калі б я забыла пра шакаладкі «Марс» і «Кіт-кат».
Я прынесла некалькі часопісаў для хлопчыкаў і дзяўчынак. Не рабі выгляд, што ты ніколі не чытаў іх, маленькі Меган.
А што наконт «Тамазапана», Мойра? У цябе атрымалася сцягнуць яго з універсітэта?


Нажаль, я не прафесійная зладзейка, доктар Нокс.
Але я змагла расстарацца трохі «Празакам», яго павінна быць дастаткова, каб падтрымліваць нават самых цяжкіх пацыентаў. Хаця б да канца тыдня.
SULPHER DIOXIDE


Выдатна. А што потым? Будзем спадзявацца на **цуд**?
Не, мы яшчэ што-небудзь прыдумаем. Мне таксама ўсё гэта не спадабаецца. Але Чарльза з намі няма. А цяпер, калі з'явіўся Магнета, у нас не застаецца **выбару**.


Зараз мая галоўная задача, як і заўсёды... Клапаціцца аб мутантах, якія не могуць паклапаціцца аб сабе самі. Але мы не можам жыць так **увесь час**.
Прыйшоў час дзейнічаць і пакласці гэтаму канец. Інач спадарожнік, які яны пабудавалі, зробіць гэта за нас.


Вам тэлефануюць з **Германіі**, доктар Мактагерт.
Што? Няўжо ў нас ёсць знаёмыя ў Германіі?


Ало, доктар? Я - Курт Вагнэр... **Тэлепортэр**. Былы ўдзельнік праграмы «Зброя Ікс».
Чарльз Ксаўе даў мне ваш нумар, каб я патэлефанаваў па ім у выпадку крайняй неабходнасці. Я нядаўна размаўляў з ім.


Я таксама, містар Вагнэр. Нажаль, некалькі тыдняў назад я згубіла зувязь з маім былым мужам і яго Людзьмі-ікс. І ніхто ня ведае, дзе яны зараз знаходзяцца.
Вы хочаце сказаць, што, магчыма, Людзі-ікс загінулі?

Мы абодва ведаем, што бедны Цыклоп загінуў, але аб астатніх нічога невядома.

В інтэрнэце ходзяць розныя чуткі: ёсць меркаванне, што яны трапілі ў палон і загінулі, а іншыя лічаць, што яны далучыліся да Магнета і рыхтуюць змову супраць чалавецтва.

*MEIN GOTT!*

Вы ў парадку, містар Вагнэр?

Так, усё добра... Я спрабую ўйсці ад параследуючых мяне афіцэраў нямецкай спецслужбы. Яны хочуць спытаць мяне пра мае стасункі з Людзьмі-ікс.

Але я разбяруся з імі...


Цяпер пра прафесара... Ён даў мне **адрас**, куды я магу перабрацца ў выпадку, калі сітуацыя выйдзе з-пад кантролю. Гэта месца яшчэ бяспечна?




Спадзяюся, што так, містар Вагнэр, бо мы збіраемся заставацца тут яшчэ **некаторы час**.


POLIZEI


**Выдатна**. Да вас можна дабрацца за тры дні, мілая лэдзі...
Але я буду ў вас праз два. Добра?
AUSFA
Шчыра кажучы, мяне трохі пужае, як хутка вы засвоілі ангельскую, дзякуючы сучаснаму тэлебачанню.

ЦЫТАДЭЛЬ:

Сакрэтны штаб Братэрства Мутантаў і, магчыма, будучы парламент Зямлі.

Ну і як прасоўваецца праца над нашай сакрэтнай зброяй, Вынаходнік? Усё ідзе па плану?

Супакойся, Шаблезубы. З дапамогай маіх суперздольнасцяў я магу стварыць **усё**, што заўгодна, з нічога. І я так непакоюся за гэты праект, што не спаў амаль два тыдня.

Павер мне... У параўнанні з гэтым маленькім шэдэўрам, які мы зараз збіраем, усе мае папярэднія стварэнні прымітыўныя, як кававарка.

А на што гэтая прылада здольна? Мозг казаў, што гэта нейкі **прамень-забойца**?

Ой, суняміся. Я падобны на хлопца, які страціць два тыдні на стварэнне праменя-забойцы? Гэта **ўзмацняльнік**, прыяцель... Ён пашырыць прыродныя суперздольнасці Магнета.

Гэта наш варыянт Цэрэбра, які ўзмацняў тэлепатычныя здольнасці Ксаўе.

Магнета ўвойдзе ў гэтую камеру і зможа адсюль кіраваць **сталіцамі ўсяго свету**.







Пад «непашкоджанымі» ты маеш на ўвазе «здольныя дыхаць у рэспіраторнай масцы»? Тады - так. Місія прайшла паспяхова, Шаблезубы.

Нашыя наступныя цэлі: супермоцны мутант з Паўднёвай Украіны, а таксама дзяўчына, кіруючая сонечнай энэргіяй з Усходняга Тымора.




І потым, як казаў Магнета, ніхто ня ведае, якія масштабы прыме гэтая генэтычная вайна. Гэтыя рэчы могуць сапсавацца, пакуль мы будзем змагацца за сусветнае панаванне.
Неацэнныя карціны, арыгіналы кінафільмаў, першыя выданні навукова-фантастычных раманаў, якія ён чытаў у юнацтве... Я не ўяўляў, што Магнета схільны **настальгіі**.

Проста ён не хоча рызыкаваць тымі каштоўнымі рэчамі, якія чалавецтва стварыла за апошнія пяць тысяч гадоў.
Сякунду, што гэта?
Гэта? Рэнэ Магрыт. «Замак у Пірэнэях», Шаблезубы... Ты забыў, як мы грузілі яго ў шрубалёт? Гэта любімая карціна Магнета.

Не можа быць.
Гэта яго **любімая** карціна?

Так, хто б мог падумаць, што Магнета такі **сентыментальны**?

Дарэчы, ты бачыў сяброўку Множніка?



Мне гэта спаказала-
ся ці яна сапраўды
падобна на Гвінет
Пэлтроў?







Ты жартуеш? Пасля таго, што ён **зрабіў**? Ды я ні за якія пернікі не стану больш размаўляць з гэтым хлопцам.

О, дзеля бога, гэта ўсё з-за таго глупага тэлефоннага званка ад хлопца, за якога ты нават не галасаваў.

Калі б я ведаў, што ты будзеш так турбавацца, я пераканаў бы цябе паразмаўляць з тым чалавекам.






«Герой»?

Рабяты, вы чуеце мяне?

Не бойся, чалавечык, я не зраблю табе больна.
У вас узніклі праблемы з сувяззю з-за электрамагнітных хваль, якія ідуць ад мяне.
Я прыйшоў, каб разабраць на часткі гэтую жудасную **прыладу** па пошуку мутантаў.
Кім яны вас лічаць? Выкінулі ў космас, каб вы зрабілі за іх усю брудную працу, пакуль яны будуць нежыць свае павыкормліваныя азадкі? Колькі яны **заплацілі** вам за тое, што вы **рызыкуеце** сваім жыццём?


Яны зарабляюць столькі ж за дзень. А кіназорка за гадзіну. Якая ўзнагарода прымусіла вас рызыкаваць усім дзеля гэтай прагнілай сістэмы?
Яшчэ адна бессэнсоўная **прэмія** ці **медаль**?


Я ведаю, хто вы. Я ведаю, што вы хочаце забіць нас, але калі ласка... Дазвольце мне спачатку пасланць дадому паведамленне...


Развітацца з дзецьмі.


Забойствы не задавальняюць мяне... Асабліва забойствы такіх нязначных людзей, як вы.
Ты не зразумеў мяне, чалавек. Я тут толькі для таго, каб знішчыць электроніку і адключыць гэты глупы **спадарожнік**, які яны хацелі выкарыстаць **супраць нас**.


Але, калі вы выключыце ўсе прыборы, як мы вернемся **назад**?
Як мы дабярэмся да шатла?


Як я ўжо сказаў.
Гэта **не мае значэння**.
А цяпер, прабачце, спадары, у мяне яшчэ ёсць **справы**.
To Be Continued...

# ПАДТРЫМАЙ МЯНЕ НА PATREON

**www.patreon.com/comicsby**

Твая падтрымка дапаможа мне праводзіць больш часу за перакладамі коміксаў, каб у цябе было яшчэ больш літаратуры на беларускай мове.

## Выбяры адзін з варыянтаў падтрымкі на patreon:

Афіцыйны патрон

**3 $**

ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

Афіцыйны патрон атрымлівае спасылку на рэліз перакладa **на 1 месяц раней**, чым падпішчыкі ў сацыяльных сетках.

- На 1 месяц раней, чым усе

Патрон з падпіскай прэміум

**5 $**

ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

**Патрон з падпіскай прэміум** атрымлівае спасылку на рэліз новых серый **на 1 год раней**, чым падпішчыкі сацыяльных сетак.

Сярод такіх новых серый мы плануем коміксы «Цуда-жанчына», «Дарт Вэйдэр», «Чорны молат», «Дэпартамент праўды» і інш. Спачатку - па 2 выпускі ў месяц, а далей - у залежнасці ад колькасці патронаў з падпіскай прэміум.

Так сама атрымлівае ўсё тое, што і **Афіцыйныя патроны**.

- На 1 год раней, чым усе
- На 1 месяц раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў

## Мае мэты:

**100 патронаў** -
я найму перакладчыкаў, каб было яшчэ больш перакладаў на беларускую мову.

**500 патронаў** -
я ствару выдавецтва, мэтай якога будзе - электронная публікацыя арыгінальных коміксаў і кніжак на беларускай мове.

**1000 патронаў** -
выдавецтва пачне друкаваць папяровыя кніжкі і коміксы з творамі на беларускай мове, якія можна будзе набыць у беларускіх крамах.